# ПАГОНЯ

Чацвер
3 чэрвеня 1999 г.
№ 37 (414)
Кошт 25.000 руб.

## Бірукова плануе святкаваць трэцяе тысячагоддзе

**Гарадзенскі аблвыканкам зацвердзіў план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкаванні 2000-годдзя хрысціянства.**

Згодна з планам, у лютым 2000 года ў вобласці пройдзе ўрачысты сход грамадскасці і святочны канцэрт, прысвечаныя гэтым знамянальным датам. Падобныя мерапрыемствы пройдуць ва ўсіх гарадах і раёнах вобласці. На травень 2000 года прызначана правядзенне III рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. Будуць наладжаны конкурсы дзіцячага малюнку «На парозе трэцяга тысячагоддзя», экалагічныя праекты на тэму «Горад, вёска. Трэцяе тысячагоддзе», выставы, «круглыя сталы», лекторыі, дабрачынныя і велікодныя мерапрыемствы для дзяцей-сірот, інвалідаў і ветэранаў.

Для арганізацыі працы па падрыхтоўцы і святкаванні трэцяга тысячагоддзя і 2000-годдзя хрысціянства створаны аргкамітэт, які ўзначаліла намеснік старшыні аблвыканкама Марыя Бірукова.

**Ася Куніцкая**

## «ГАЗэль» для медыкаў і міліцыянтаў

**Бліжэйшым часам лідскі завод «Нёман» плануе пачаць выпуск спецыяльных аўтамабіляў для працаўнікоў Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства ўнутраных справаў рэспублікі.**

Прадугледжваецца, што на базе мікрааўтобусаў «ГАЗэль» будуць збірацца патрульныя машыны і аўтамабілі «хуткай медычнай дапамогі». Цяпер прадстаўнікі «Нёмгна» вядуць перамовы з Горкаўскім аўтамабільным заводам аб перадачы дакументацыі на зборку такіх аўтамашын і аб пастаўцы спецыяльных машынакамплектаў. На думку спецыялістаў завода «Нёман», адпускная цана спецаўтамабіляў шмат у чым будзе залежаць ад камплектацыі іх спецыяльнай тэхнікай.

Парк падобных машын на Беларусі складаецца, у асноўным, з аўтамабіляў Ульянаўскага і Рыжскага аўтамабільных заводаў. Ён даўно састарэў і патрабуе абнаўлення.

**Аляксандр Паповіч**

## Падпольная атрута «Азота» каштуе 360 мільёнаў

**Больш за 400 тонаў плава кальцынiраванай соды вывезла вытворчае аб'яднанне «Азот» на ўласныя шламанакапляльнікі. Гэтым самым створана пагроза засалення глебы і падземных водаў.**

З падобным абуральным фактам сутыкнулася начальнік гарадзенскай гарадской інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Ірына Алёхіна. І тады хімікі прадпрыняli спробу замесці сляды - пачалі закопваць соду. Але і на гэты раз іх падпольная работа выявілася, яе зафіксавала знойтакі Алёхіна. Толькі на гэты раз на месцы здарэння быў і супрацоўнік пракуратуры.

І вось надышоў час расплаты. У абласным камітэце прыродных рэсурсаў падлічылі страту, нанесеную навакольнаму асяроддзю гарадзенскімі азотнікамі. Ім выстаўлена прэтэнзія ў памеры 362,6 мільёна рублёў. А кальцынiраваную соду неабходна складзіраваць на спецыяльнай прамысловай пляцоўцы. Калі ў азначаны тэрмін «Азот» не задаволіць прэтэнзіі мясцовых эколагаў, то яму пагражае прад'яўленне зыску.

**Вад Айдараў**




**4 і 5 чэрвеня** чакаецца пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні, 2-7 м/с. Тэмпература паветра ўначы +6...+8, удзень +18...+23.



1 чэрвеня адбылося пахаванне ахвяраў масавай трагедыі ў падземным пераходзе станцыі метро «Няміга» ў Менску. На здымку: сваякі родных сясцёр Святланы Лобан і Людміры Шкурдзе развітваюцца на могілках з загінуўшымі.
Больш падрабязна пра гэтую трагедыю - на 3-й стар.
Фота IREX/ProMedia

## Палякаў збіраюцца заклікаць «к порядку»

**Кіраўніцтва нацыянальна-культурнага аб'яднання Саюз палякаў Беларусі (СПБ) заклапочана магчымым зьмяненнем стаўлення ўладаў да сваёй арганізацыі. Гэтая заклапочанасць выклікана наяўнасцю дакумента «Аб дзейнасці Саюза палякаў і ўзаемадзеянні з ім», які Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў накіраваў у Савет Міністраў рэспублікі.**

У гэтым дакуменце аналізуецца дзейнасць СПБ — найбуйнейшага ў краіне нацыянальна-культурнага аб'яднання. Адзначаецца, у прыватнасці, што старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін «актыўна ўдзельнічае ў палітычнай дзейнасці на баку радыкальных апазіцыйных сіл», прычым асноўнай матывацыяй дзеянняў старшыні СПБ «з'яўляецца быццам бы парушэнне праваў грамадзян польскай нацыянальнасці ў Рэспубліцы Беларусь». Найбольшая колькасць канфліктаў з удзелам СПБ, адзначае Дзяржкамнац, узнікае ў сферы адукацыі.

«Абумоўлена гэта, у асноўным, тым, што Саюз палякаў не сувымярае свае патрабаванні з магчымасцямі дзяржавы і ўмовамі, што склаліся», — гаворыцца ў дакуменце.

З 1996 года на сродкі СПБ і сусветнай польскай дыяспары ў Беларусі створаны дзве польскамоўныя школы — у Гродне і ў Ваўкавыску. Пытанне аб будаўніцтве яшчэ адной такой школы — у Навагрудку, дзе жывуць каля 1,5 тысячы палякаў, — дагэтуль не вырашана. Нагадаем, што беларускае заканадаўства абавязвае дзяржаву ў выпадку жадання бацькоў дзіцяці стварыць умовы для навучання яго на роднай мове. У дакуменце ж Дзяржкамнаца гаворыцца, што «якіхсьці сур'ёзных падставаў для стварэння школы з польскай мовай навучання не існуе».

Ёсць, на думку прадстаўнікоў камітэта, і яшчэ адна праблема — «асаблівая ўвага», якую надаюць вучням такіх школ СПБ, дыпламатычныя прадстаўніцтвы Польшчы, розныя польскія дабрачынныя арганізацыі і фонды, а таксама каталіцкая царква. «Пастаянныя падарункі вучням ды іх бацькам, выезды летам на аздараўленне ў Польшчу і г.д. выклікаюць у іх пачуццё выключнасці і прывілеяванасці, а ў іх равеснікаў, якія навучаюцца на дзяржаўных мовах, —уяўленне аб прэстыжнасці польскамоўнай адукацыі і ўсяго польскага», — гаворыцца ў дакуменце.

Сур'ёзнымі праблемамі Дзяржкамнац таксама лічыць «больш нізкую паспяховасць вучняў, якія навучаюцца на польскай мове, у параўнанні з равеснікамі, якія атрымліваюць адукацыю на дзяржаўных мовах», стан патрыятычнага выхавання ў польскамоўных класах і адсутнасць належнага кантролю за працай пазашкольных устаноў СПБ.

Кіраўніцтва СПБ, падкрэслена ў запісцы, пайшло на абвастрэнне адносінаў з дзяржаўнымі органамі і актыўна ўдзельнічае ў мерапрыемствах апазіцыі. З гэтай прычыны Дзяржкамнац абагульніў матэрыялы па ўдзеле СПБ у палітычнай дзейнасці і накіраваў іх для прававой ацэнкі ў Міністэрства юстыцыі, а таксама ў Дзяржаўны камітэт па друку для вынясення пісьмовага папярэджання рэдакцыі газеты «Глосз-над Немна».

У выніку Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў прапаноўвае ўраду прадпрыняць наступныя захады: «асноўную ўвагу надаць супрацоўніцтву» з іншымі польскімі аб'яднаннямі, якія «па розных прычынах адкалоліся ад СПБ»; «перамясціць супрацоўніцтва з СПБ» у «плоскасць», звязаную з існаваннем у цэнтральным кіраўніцтве СПБ «розных падыходаў і пунктаў погляду па ўсім спектры праблем» і незадаволенасцю кіраўніцтвам некаторых мясцовых структур дзейнасцю цэнтральнага кіраўніцтва; «арганізаваць комплексную праверку польскамоўнай адукацыі ў рэспубліцы». Дзяржкамнац таксама лічыць, што «наспела неабходнасць комплекснай праверкі гаспадарчай дзейнасці СПБ, у тым ліку ... размеркавання гуманітарнай дапамогі і сродкаў, атрымліваемых СПБ з-за мяжы». У закон «Аб грамадскіх аб'яднаннях» прапанавана «ўнесці змяненні, якія б забаранялі палітычную дзейнасць для нацыянальна-культурных аб'яднанняў».

У Дзяржкамітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пацвердзілі наяўнасць такога дакумента. Што ж тычыцца Саюза палякаў Беларусі, то старшыня СПБ Тадэвуш Гавін пракаментаваў дзеянні Дзяржкамнаца такім чынам: «Мы праявілі наіўнасць, мяркуючы, быццам бы Дзяржкамнац створаны для аказання дапамогі нацыянальна-культурным аб'яднанням... Камітэт падрыхтаваў ліст у Савет Міністраў Беларусі, каб задушыць нас».

**Марат Гаравы**

## Швед Коні прыехаў з рускай Наталляй...

**26 траўня Гродна наведаў Генеральны сакратар Сацінтэрна, старшыня грамадскай арганізацыі «Еўрапейскі Форум за дэмакратыю і салідарнасць» Коні Фрыдрыксан. Яго суправаджала прадстаўніца стакгольмскага фонду Улафа Пальмэ Наталля Аляксеева, а таксама старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Мікалай Статкевіч. Госці прыехалі на Беларусь па запрашэнні БСДП «НГ».**

Адбылася сустрэча з кіраўнікамі палітычных партый і грамадскіх арганізацый, якія ўваходзяць у Каардынацыйны камітэт «Гарадзенская ініцыятыва». Старшыня камітэта, сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Домаш распавёў пра дзейнасць недзяржаўных грамадскіх арганізацый Гарадзеншчыны, ахарактарызаваў цяперашняе палітычнае становішча ў нашай краіне.

Коні Фрыдрыксан цікавіўся вырашэннем нацыянальных праблемаў на Беларусі. Дадаў, што еўрапейскіх сацыял-дэмакратаў вельмі турбуе пашырэнне ўплыву нацыяналістаў у такіх краінах, як Францыя, Аўстрыя і Бельгія. Адзін са складнікаў гэтай з'явы - беспрацоўе.

Адказваючы на пытанне, госць адзначыў, што з афіцыйнымі прадстаўнікамі беларускіх уладаў сустрэчы не планаваліся. І дадаў, што яшчэ адной прадстаўніцы Еўрапарламенту, якая павінна была таксама прыехаць, амбасада Беларусі ў Вене адмовіла ў візе.

Генеральны сакратар Сацінтэрна Фрыдрыксан меў сустрэчы з сябрамі незалежных прафсаюзаў вытворчага аб'яднання «Азот», завода аўтаагрэгатаў, рэдактарам газеты ПАГОНЯ Мікалаем Маркевічам і намеснікам рэдактара штотыднёвіка «Биржа информации» Міхаілам Карневічам.

**Антон Лабовіч**

## «Vitus» хаця і шыпіць, але дзяцей аздараўляе

**Агульнае захворванне дзяцей у Гарадзенскай вобласці за апошнія 10 гадоў узрасло на 21 працэнт, а ў іншых рэгіёнах рэспублікі гэтая лічба яшчэ больш сумная. Рост захворвання дзяцей залежыць і ад недахопу вітамінаў і мінеральных рэчываў. Іх шмат у прыродзе, нямала ў магазінах і аптэках, але гэтыя прадукты не па кішэні многім беларусам з-за недахопу сродкаў. А вось магчымасці дзяржавы вельмі сціплыя...**

- У гэтым годзе ў Гродне прынята праграма па прафілактычнай полівітамінізацыі, - гаворыць загадчыца аддзялення гігіены дзяцей і падлеткаў абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Наталля Юрчанка. - На гэтыя мэты з гарадскога бюджэту выдаткоўваецца 2,9 мільярда рублёў. Першы этап пройдзены. На працягу дзесяці дзён дзеці дашкольных установаў, інтэрнатных групаў, Дома дзіцяці атрымлівалі полівітамінна-мінеральныя комплексы серыі «Vitus». Адна «шыпучая» таблетка забяспечвае сутачную патрэбу арганізма ў вітамінах, ёдзе ды іншых мікраэлементах. У другім этапе праграмы агадваецца полівітамінізацыя дзяцей, якія часта хварэюць.

Досвед Гродна не стаў нормай для іншых гарадоў вобласці: не хапае грошай. Адзін флакон (10 таблетак) каштаваў увесну больш за 600 тысяч рублёў. Якім бацькам такое задавальненне па кішэні? Але галота на выдумку здатная: цяпер комплексы серыі «Vitas» уключаны у кошт пуцёвак у летнія дашкольныя аздараўляльныя лагеры Гарадзеншчыны. Бацькоў не ўзрадавала падаражанне пуцёвак, затое іх дзеці атрымаюць паўнавартасную і гаючую дозу «шыпучых» таблетак беларускай вытворчасці.

**Вад Айдараў**

# Беларуская Хадынка

**Жахлівая трагедыя, у якую проста немагчыма паверыць, адбылася ўвечары 30 траўня ў самым цэнтры беларускай сталіцы. У страшэннай таўкатні, якая ўзнікла ў падземным пераходзе на станцыі метро «Няміга», загінула 52 чалавекі. Каля 300 чалавек атрымалі знявечанні.**

Прычынай катастрофы стаў вялікі дождж, які раптоўна пачаўся ў Менску каля 20.00. У гэты час каля Палаца спорту на праспекце Машэрава праходзілі масавыя гулянні пад агульнай назвай «Піўное свята «Аліварыя», санкцыянаваныя гарадскім выканаўчым камітэтам. Пры першых раскатах грому і кроплях дажджу тыя з маладых людзей, хто знаходзіўся блізу станцыі метро «Няміга», кінуліся шукаць сховішча ў падземным пераходзе.

Насустрач вясёламу натоўпу якраз выйшлі шматлікія пасажыры чарговага цягніка, якія прыехалі на свята. На прыступках перахода і адбылося сутыкненне. Падвыпіўшы натоўп адкінуў тых, хто падымаўся па лесвіцы, назад, пад зямлю. Нехта ўпаў на гранітную падлогу - пралілася першая кроў. На ёй нехта паслізнуўся, цягнучы за сабою іншых. Тых, хто ўпаў, пачалі таптаць.

Дождж мацнеў, і напор жадаючых застацца сухімі людзей нарастаў. З супрацьлеглага боку Нямігі, адтуль жа, дзе размешчаны Кафедральны Сабор і прыпынак грамадскага транспарту, ішло нямала людзей. Многія з іх таксама накіроўваліся да месца масавых гульняў у адпаведным стане і прыўзнятым настроі. Таму лямант натоўпу, які нёсся насустрач, быў успрыняты як натуральны адгалосак вяселля. А тут яшчэ з таго ж боку, ад Сабора, у пераход кінуліся прахожыя, якія ратаваліся ад дажджу...



Маладыя людзі прыносяць кветкі і запальваюць свечкі на месцы гібелі людзей. Вечар, 31 траўня...
Фота IREX/ProMedia

Сутыкненне было страшным. Праз вясёлыя крыкі і свіст прабіліся крыкі болю. Людзі падалі пад ногі натоўпу, што ўсё больш павялічваўся. За лічаныя хвіліны ў стометровы нешырокі пераход набілася больш як дзве тысячы чалавек. Стварыўся шчыльны жывы затор. Людзі, якія апынуліся побач, кажуць, што зямля пад імі напоўнілася глухім рокатам і пачала скаланацца.

У гэтым пекле выбіраліся наверх і выжывалі самыя моцныя. Яны пакідалі за сабой астатніх, літаральна размазаных па сценах, уціснутых у падлогу перахода, тых, хто задыхнуўся ў неверагоднай таўкатні. Людзі ў роспачы спрабавалі прарвацца ў метро. Гэтыя спробы былі спынены дубінкамі нарадаў міліцыі. Паводле сведчанняў відавочцаў, міліцыянты крычалі: «Выстраіцца ў чаргу! Заходзіць па аднаму!» Аднак некаторай часціцы натоўпу, разбіўшы шкляныя дзверы, усё ж удалося прабіцца ў метрапалітэн. Загінуў адзін з міліцыянтаў, некалькі з іх атрымалі сур'ёзныя раненні.

Пад'ехаўшыя прыкладна ў 20.20 нарады міліцыі і брыгады «Хуткай дапамогі» пачалі прымаць першых пацярпелых. І першыя трупы. Людзі выбіраліся з-пад зямлі, выносілі сяброў і ў знямозе падалі на зямлю. А з-пад зямлі даносіліся крыкі болю тых, хто ніяк не мог выбрацца з гэтай пякельнай мясарубкі.

Рэанімацыйнае аддзяленне бліжэйшых шпіталяў NN 1, 2 і 3 перапоўніліся практычна адразу. Толькі ў другую бальніцу прывезлі больш за 60 параненых. Самае вялікае на Беларусі рэанімацыйнае аддзяленне ў бальніцы хуткай дапамогі, разлічанае на 25 месцаў, прыняло ў гэтую ноч каля 100 чалавек. Мы былі там праз дзве з паловай гадзіны пасля трагедыі, а машыны з ахвярамі беларускай Хадынкі ўсё пад'язджалі і пад'язджалі. Як расказаў адзін з санітараў, у першыя паўгадзіны людзей прывозілі не толькі на міліцэйскіх машынах і машынах «хуткай дапамогі», але і проста на «легкавушках» і мікрааўтобусах - па 8-10 чалавек у кожным.

Стомленыя, раздражнёныя, знерваваныя ўрачы не маюць жадання (ці проста не паспяваюць) дзяліцца з журналістамі інфармацыяй. Замест іх гэта робіць нарад міліцыі. Ён спрабуе адабраць у фотакарэспандэнтаў плёнку, на якой адлюстраваны кадры работы медыкаў. Толькі адзін з медыкаў, адвёўшы нас убок, паведаміў, што ў гэтую бальніцу прывезлі 9 трупаў, а 6 чалавек памерла ўжо тут:

- Чаму яны адбіраюць у Вас плёнку? Чаму зноў хочуць нешта ўтаіць?

Гэты ж чалавек паведаміў нам, што асноўныя дыягназы ў прыбыўшых - страсенне мозга, пералом асновання чэрапа, сцісканне груднай клеткі, пераломы канечнасцей. Урэшце рэшт нам удалося сфатаграфаваць счарнелы ад удушша труп неапазнанай дзяўчыны. Гэта жахліва - ён ляжыць у нейкім закутку, побач з медычнай каталкай на голай падлозе.

Сваякі пацярпелых ахутаны неверагодным горам. Яны тэлефануюць у іншыя бальніцы, дахаты, выстраіліся ў чаргу ля адзінага таксафона. Проста плачуць ці ходзяць, абхапіўшы галовы рукамі. Самыя гаваркія суразмоўцы - тыя, хто нязначна пацярпеў. Яны паведамляюць большасць падрабязнасцяў трагедыі.

Так што сказаць, што ў прыёмных аддзяленнях менскіх шпіталяў у гэтую ноч было горача - значыць, нічога не сказаць. Змучаны медперсанал, параненыя з лёгкімі траўмамі і сваякі, незлічоныя сваякі тых, хто ляжаў пад кропельніцамі і на аперацыйных сталах. Звестка пра жахлівае здарэнне распаўсюдзілася па гораду імгненна. Людзі ў адчаі абрывалі тэлефоны, маталіся ад бальніцы да бальніцы ў пошуках невярнуўшыхся дадому дзяцей і сяброў. Так атрымалася, што пераважная большасць ахвяраў гэтай трагедыі - падлеткі ад 13 да 17 гадоў.

У прыёмным пакоі 2-й бальніцы разгаварыліся з хлопцам гадоў 15-ці. Яго імя Руслан. У пераходзе ён быў разам з двума сябрамі і дзвюма сяброўкамі:

- Мы футбольныя фанаты, таму ведаем, як сябе паводзіць у такім натоўпе, - закрываць галаву і прабівацца да выхаду. Але вось яны (паказвае на дзяўчат) гэтага не ведаюць. І яны слабейшыя. Ёй вось пашанцавала. А Таньку мы толькі што знайшлі - яе павезлі кудысьці з пераломам шчыкалаткі. Цяпер вось шукаем яшчэ аднаго сябра. Што з ім - баюся нават думаць.

Менавіта Руслан паведаміў, што міліцыя не пускала людзей у метро. І яшчэ ён увесь час, як заведзены, паўтараў:

- Самае камічнае, што ўсё гэта здарылася з-за дажджу...

Міліцыянт на ўваходзе ў рэгістратуру не пусціў, але сказаў, што паводле іх спісаў, з «двойкі» павязлі 25 ці 28 трупаў. З 2-й бальніцы едзем у 3-ю, што каля стадыёна «Дынама». Там паведамілі, што да іх прыехала дзесяць машын «хуткай дапамогі» з пацыентамі. Яны ж прывезлі два трупы. «Едзьце ў 9-ю ці 10-ю, - параіў санітар, - нябожчыкаў звозяць туды. У 9-й бальніцы знаходзіцца судмедэкспертыза, а 10-я - самы вялікі ў горадзе морг». Пад'ехаўшы ў «дзявятку», мы высветлілі, што туды паступіла 25 параненых і 10 памерлых.

Каля гадзіны ночы мы зноў апынуліся каля бальніцы «хуткай дапамогі». Там удалося стаць сведкамі разгрузкі міліцэйскага грузавіка, які прывёз страшны груз з 9-й і 4-й бальніц. Загінуўшыя ляжалі ўпаваліку, іх было не менш як дзесяць. Паталагаанатамы-прафесіяналы выносілі трупы з дапамогаю міліцыянтаў. Маладыя хлопцы ў форме былі смяротна бледнымі і ўвесь час курылі. Некаторыя з іх уціскалі галовы пры кожным стуку скалелага цела аб каталку.

Да гэтага часу ў бальніцы хуткай дапамогі ўжо быў вывешаны спіс з 32-х чалавек, якія засталіся там на лячэнне. Большасць аперацый ужо была праведзена. А паток людзей, якія шукалі сваіх згінуўшых дзяцей, не слабеў. Пасля паездак па рэанімацыйных аддзяленнях большасці бальніц, многія з іх накіроўваліся ў «дзесятку» - тую самую, дзе размяшчаецца самы вялікі ў Менску морг.

**Ул.інф.**

# Прэзідэнт заклікаў не судзіць

**У прэзідэнта Беларусі прайшла рабочая нарада з кіраўнікамі міністэрстваў і ведамстваў органаў дзяржкіраўніцтва, якія займаюцца высвятленем прычын і абставінаў трагедыі, якая адбылася вечарам 30 траўня ў Мінску. Адкрываючы нараду, кіраўнік дзяржавы звярнуўся да беларускага народа, родных загінуўшых і пацярпеўшых з просьбай «не абвінавачваць і не судзіць...»**

«Гэта гора не толькі тых, чые сваякі загінулі, гэта гора і маё, і кіраўніцтва ўсёй краіны», — заявіў Аляксандр Лукашэнка. Звяртаючыся да службовых асоб, прэзідэнт заклікаў іх «не спрабаваць каго б там ні было абвінавачваць зараз, не спрабаваць абяліць тое ці іншае ведамства». Паводле яго слоў, створана Дзяржаўная камісія, пракуратурай распачата крымінальная справа — «ёсць каму расследаваць», камісія ўнясе свае прапановы прэзідэнту і рашэнне будзе прынята на самым высокім узроўні. А.Лукашэнка таксама папрасіў, «каб тое, што адбылося, не паслужыла прычынай расколу ў грамадстве». «І абсалютна недапушчальна, бесчалавечна, спрабаваць разыграць палітычную карту на чужым горы», — сказаў прэзідэнт.

**Алег Сакалоў**

# Трагедыя - сведчанне амаральнасці ўлады

**Кіраўнік грамадскай камісіі па расследаванні абставінаў трагедыі 30 траўня, выконваючы абавязкі старшыні Беларускага народнага фронту Леанід Баршчэўскі лічыць, што тое, што здарылася, з'яўляецца «яркім сведчаннем амаральнасці ўладаў».**

Паводле яго слоў, падзеі 30 траўня ў Менску паказалі, што цяперашнія афіцыйныя ўлады «даўно не клапоцяцца аб бяспецы людзей»; надта відавочна гэта прадэманстравалі афіцыйныя СМІ, каменціруючы трагедыю, якая здарылася. Як кіраўнік грамадскай камісіі, Л.Баршчэўскі лічыць: улады ў чарговы раз спрабуюць схаваць ад людзей праўду, запэўніваючы ў тым, што ў дадзеным здарэнні ніхто не вінаваты. Пра гэта гаворыць і склад афіцыйнай камісіі, у якую, паводле слоў Л.Баршчэўскага, увайшлі людзі, ускосна вінаватыя ў трагедыі, якая разыгралася, — старшыня Мінгарвыканкама Уладзімір Ярмошын, міністр унутраных спраў Юрый Сівакоў і сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман.

Трэба сказаць, што гэткага ж меркавання прытрымліваецца і спікер Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Шарэцкі. На прэс-канферэнцыі, якая адбылася пасля стварэння грамадскай камісіі ўвечары 31 траўня, ён сказаў: «Не варта на людскім горы рабіць палітыку, аднак нельга не адзначыць і таго факту, што, калі б улады так клапаціліся аб ахове людзей, як яны клапоцяцца аб ахове сваіх асабістых персон, гэтай трагедыі не здарылася б».

Разам з тым усе ўдзельнікі камісіі падкрэслілі, што лічаць вінаватымі ў тым, што здарылася, не шэраговых міліцыянтаў, якія самааддана спрабавалі прадухіліць трагедыю, а тых, «хто аддаваў бяздумныя загады». Гэтыя людзі, на думку членаў грамадскай камісіі, «праявілі не проста непрафесіяналізм, а злачынны непрафесіяналізм». Грамадская камісія звяртаецца да ўсіх, хто можа паведаміць дадатковыя звесткі аб тым, што здарылася 30 траўня ў Менску, з просьбай званіць па тэлефоне (017) 213-30-08.

**Юрый Пацёмкін**

# Усе вінаватыя - адкажуць!

**Шэраг вядомых палітычных, грамадскіх і прафсаюзных дзеячоў Беларусі паставілі свае подпісы пад заявай, у якой уся віна за трагічныя падзеі, што адбыліся ў Мінску 30 траўня, ускладаецца на беларускія ўлады.**

«Каб трагедыя не паўтарылася, трэба бачыць яе прычыны, — гаворыцца ў заяве. — Стала відавочна: шматлікія і шматлюдныя сілавыя структуры ўтрымліваюцца рэжымам, каб душыць апазіцыйныя палітычныя акцыі, каб абараняць рэжым ад народнага гневу, а не каб бараніць людзей ад стыхіі. Паўсюль у свеце адпаведныя органы ўлады і сілы правапарадку існуюць для таго, каб прадбачыць і прадухіляць непажаданае для бяспекі грамадзян развіццё падзей. У Беларусі ўлада прадухіляе небяспеку для самой сябе».

Трагедыя, адзначаецца ў заяве, «наспявала даўно», паколькі ў рэспубліцы «стала звычайнаю практыкай, калі на афіцыйна ладжаных святкаваннях бясплатна раздаюць піва і іншыя алкагольныя напоі, у тым ліку непаўналетнім».

«Усе вінаватыя за трагедыю адкажуць перад справядлівым судом», —пераканаiя аўтары заявы, сярод якіх — Станіслаў Шушкевіч, Сямён Шарэцкі, Леанід Баршчэўскі, Мікола Купава, Мікола Анціповіч і іншыя грамадскія і палітычныя дзеячы краіны.

**Наталля Кулагіна**

# Ярмошын, Сівакоў, Шэйман...

**Старшыня Мінскага гарвыканкама Уладзімір Ярмошын, міністр унутраных спраў Беларусі Юрый Сівакоў і сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, якія не змаглі стварыць у краіне сістэму бяспекі пры праведзенні масавых мерапрыемстваў і забяспечыць яе эфектыўную дзейнасць у сталіцы, павінны пайсці ў адстаўку.**

Такую заяву распаўсюдзіла 1 чэрвеня кіраўніцтва прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання. Як адзначаецца ў дакуменце, асноўная прычына таго, што здарылася ў падземным пераходзе сталічнай станцыі метро «Няміга» — адсутнасць адказнасці ў органах дзяржаўнага кіравання. Недапушчальна, каб службовыя асобы, дзяржаўнай функцыяй якіх з'яўляецца забеспячэнне бяспекі і захаванасці жыцця грамадзян, не былі прыцягнуты да адказнасці. «Няма ў дзяржаўным, грамадскім жыцці і дзейнасці простых выпадковасцяў, — гаворыцца ў заяве. — Кожная выпадковасць абумоўлена заканамернасцямі некампетэнтнага і бессістэмнага кіравання, халатных, безадказных адносін да выканання службовых абавязкаў кіраўнікоў і службовых асоб. Калі на вытворчасці адбываецца няшчасны выпадак са смяротным зыходам, адказнасць нясе кіраўнік прадпрыемства і непасрэдна адказныя за арганізацыю працы на вытворчым участку. Гэтаксама пры праведзенні масавых мерапрыемстваў павінна дзейнічаць сістэма, якая выключае любыя выпадковасці, што могуць прывесці да якіх-небудзь непажаданых наступстваў».

На думку кіраўніцтва аднаго з буйнейшых прафсаюзаў краіны, відавочны той факт, што ўлады не паклапаціліся аб бяспецы людзей у дзень масавых гулянняў 30 траўня. Не лепшым аказаўся выбар месца і часу правядзення забаўляльнага мерапрыемства з рэкламай цыгарэт і піва падчас аднаго з галоўных рэлігійных святаў — Сёмухі.

**Юрый Аляксееў**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Як «пясняр вольнасці» стаў «песняром Імперыі»

16 лютага 1999 года ПАГОНЯ змясціла мой артыкул «А Пушкін быў і такім...» У ім, аддаючы належнае А.С.Пушкіну як вялікаму рускаму паэту, я збольшага паказаў і адваротны бок медаля, спыніўся на непахісных велікарускіх імперскіх перакананнях паэта, якія ва ўсіх іншых працах пра Пушкіна старанна не заўважаюцца або сарамліва замоўчваюцца.

Паэт, напрыклад, шчыра верыў, што хутка ўсе народы Расіі, у тым ліку і нядаўна захопленыя («и финн, и ныне дикий тунгус, и друг степей калмык») абрусеюць. Ён нічуць не сумняваўся, што рускія выконваюць вялікую місію, цывілізуючы тубыльцаў - заваёваныя «дзікія» або «напаўдзікія» народы, высакамерна, пагардліва ставіўся да татараў, башкіраў, чэркесаў ды іншых, з шавіністычнай прапаведдзю сваёй нацыянальнай выключнасці гаварыў пра непараўнальную веліч рускай мовы (яна, маўляў, мае «бясспрэчную перавагу перад усімі еўрапейскімі мовамі»), марыў пра час, калі «славянские ручьи сольются в русском море», усхваляў агрэсіўную палітыку рускіх цароў, славіў генералаў-заваёўнікаў Ярмолава, Паскевіча, Суворава ды іншых.

У артыкуле крыху закранаася і ваяўнічая пазіцыя Пушкіна падчас падзей 1830-1831 гадоў у Польшчы. Некаторыя з чытачоў пры сустрэчы са мной, пыталіся, ці вядома, як паставіўся Адам Міцкевіч да антыпольскіх пушкінскіх выпадаў, і дадавалі, што абодва ж паэты ў свой час сябравалі.

Зварот да шматлікіх кніг, звязаных з жыццём і творчасцю паэтаў, дазваляе адказаць на гэтае пытанне. Пра Пушкіна ёсць двухтомнік з успамінамі сучаснікаў, а таксама дакументальная кніга В.Верасаева «Пушкін у жыцці». Што-нішто можна знайсці і пра Міцкевіча. Асноўная ж крыніца - поўныя зборы твораў гэтых пісьменнікаў.

Спачатку - коратка пра Міцкевіча. Яго слушна лічаць не толькі геніем паэзіі, пісьменнікам сусветнага значэння, але і змагаром польскай і еўрапейскай дэмакратыі. Будучы студэнтам Віленскага універсітэта, ён стаў адным з арганізатараў тайных таварыстваў патрыятычнай моладзі - філарэтаў і філаматаў. Пасля заканчэння універсітэта чатыры гады настаўнічаў у Коўне, працягваючы актыўную грамадскую дзейнасць. У многіх рамантычных творах Міцкевіча яго маладыя сучаснікі шукалі і знаходзілі тое, што якраз адпавядала іхнім патрыятычным памкненням і вялікай мэце -вызваліць Польшчу ад чужаземнага прыгнёту.

У кастрычніку 1823 года царская ўлады арыштавалі Міцкевіча і яго таварышаў з філамацка-філарэцкіх арганізацый, а праз год саслалі «ва ўнутраныя губерні Расійскай імперыі». Жывучы ў Адэсе, Маскве, Пецярбургу, паэт зблізіўся з будучымі дзекабрыстамі Рылеевым і Бястужавым, пазнаёміўся са многімі рускімі пісьменнікамі, напісаў шмат новых твораў. Ссылка цягнулася чатыры з паловай гады. У траўні 1829 года паэт атрымаў дазвол на выезд з Расіі. Як толькі даведаўся ён, што лістападаўскай ноччу 1830 года ў Варшаве ўспыхнула паўстанне, жаданне быць разам з паўстанцамі ахапіла паэта. Ён выязджае з Рыма і праз Францыю і Германію прабіраецца да граніцы Каралеўства Польскага. Некалькі месяцаў сочыць ён за гераічнай, але няроўнай барацьбой, прабіцца ж да сваіх не рызыкнуў.

Пасля Міцкевіч амаль увесь час жыве ў Парыжы. А думкі паэта - у родным абяскроўленым краі, дзе адны загінулі ў баях, а другіх царскія ўлады вывезлі на катаргу ці ў ссылку. Там, у Парыжы, Міцкевіч быў душой польскай эміграцыі, асабліва яе левага крыла. Пэўны час ён чытаў курс лекцый па славянскіх літаратурах, рэдагаваў інтэрнацыянальную газету. У 1848 годзе ён арганізаваў польскі легіён на падтрымку барацьбітоў за свабоду Італіі.

З Пушкіным ён пазнаёміўся ўвосень 1826 года. У паэме «Дзяды» («Урывак часткі 3-яй») прыгадваецца, як у дажджлівую пецярбургскую ноч, укрыўшыся адным плашчом, стаялі яны ля помніка Пятру Вялікаму і, хоць упершыню сустрэліся толькі некалькі дзён таму, гутарылі, «як з братам брат». Адзін з іх - «сын з Захаду, чужынец невядомы», «царскім самавольствам гнаны». Другі - «рускі, вольнасці пясняр, які «словам палымяным Поўнач абуджаў». Дарэчы, у памянёным «Урыўку...» Міцкевіч зусім інакш ставіцца да Пятра Першага, чым Пушкін у паэме «Медный всадник» ды іншых творах. Не захапляецца ім і не ўсхваляе яго, а паказвае, як цар, «пранікшы ў чужыя землі, залажыў імперыі апору, сабе сталіцу, а не горад людзям», як ён у балота, «у нетры плывуну... утапіў целы ста тысяч мужыкоў, і стала кроў асновай той сталіцы».

Міцкевіч пісаў, што ведаў Пушкіна «даволі блізка і даволі доўга; знаходзіў у ім характар занадта ўражлівы, а часам легкадумны, але заўсёды шчыры, высакародны». І яшчэ: «Калі ён гаварыў пра знешнюю ці ўнутраную палітыку, то можна было прыняць яго за чалавека, які пасівеў у занятках дзяржаўнымі справамі і штодзённа чытае справаздачы ўсіх парламентаў».



Адам Міцкевіч

Як зазначыў адзін з сучаснікаў Пушкіна, «па адукаванасці, па шматбаковай вучонасці Міцкевіча Пушкін не мог параўнаць сябе з ім». Сам Пушкін быў у незвычайным захапленні ад Міцкевіча і аднойчы сказаў: «Нядаўна Жукоўскі гаворыць мне: ці ведаеш, брат, Міцкевіч жа заткне цябе за пояс. - Ты не так гаворыш, - адказаў я, - ён ужо заткнуў мяне». Асабліва захапляўся Пушкін выключнай здольнасцю Міцкевіча імправізаваць. На адной з такіх імправізацый, як піша А.Адынец, Пушкін сарваўся з месца і, кудлацячы валасы, амаль бегаючы па зале, усклікнуў: «Які геній! Якое свяшчэннае полымя! Што я поруч з ім?»

Пасля таго, як Міцкевіч паехаў у пажыццёвую эміграцыю, дарогі іх разышліся. Міцкевіч да скону дзён быў паэтам-ваяром, а Пушкін з «песняра вольнасці» становіцца «апошнім песняром Імперыі» (так ацаніў яго Г.П.Фядотаў).

У 1824 годзе Пушкіна, як ён пісаў пасля, «за два радкі нерэлігійныя» ў пісьме, перахопленым паліцыяй, звольнілі са службы і выслалі ў сяло Міхайлаўскае (маёнтак яго маці) пад нагляд губернскага начальства і духоўных улад. Праз два гады паэт піша новаму цару Мікалаю Першаму ліст, у якім «са шчырым раскаяннем і цвёрдым намерам не супярэчыць сваімі поглядамі агульнапрынятаму парадку» просіць дазволу ехаць у Маскву ці Пецярбург. Цар выклікае паэта да сябе, гутарыць з ім, вызваляе яго ад ранейшага пакарання, дае права жыць, дзе хоча. «Пішы і пішы, я буду тваім цэнзарам,- скончыў цар і, узяўшы яго за руку, вывеў у сумежны пакой, напоўнены царадворцамі: - Вось вам новы Пушкін, пра старога забудзем». Як сведчыць А.П.Пяткоўскі, тады ж цар, ідучы разам з Пушкіным і ласкава паказваючы на яго сваім прыбліжаным, сказаў: «Цяпер ён мой!»

За Пушкіным яшчэ працягваецца тайны нагляд, але шэф корпуса жандараў Бенкендорф ужо дакладвае цару, што паэт «усюды гаворыць пра Вашу Вялікасць з удзячнасцю і найглыбейшай адданасцю». Яшчэ праз пэўны час у чарговым данясенні галоўны жандар паведамляе: «Пушкін, пасля сустрэчы са мной, гаварыў у Англійскім клубе з захапленнем пра Вашу Вялікасць і прымусіў усіх, хто з ім абедаў, піць за здароўе Вашай Вялікасці. Ён усё-такі вялікі шалапут, але калі ўдасца скіраваць яго пяро, то гэта будзе выгадна». І вось паэт ужо піша вернападданніцкі верш «Стансы» ў гонар імператара. Некаторыя сябры Пушкіна ў такіх яго стасунках з царом бачылі здраду іх ранейшым агульным інтарэсам. П.Вяземскі, А.Тургенеў ды іншыя асабліва асуджалі паэта за яго апалагетычна-імперскія вершы «Клеветникам России» і «Бородинская годовщина». Пра ўслаўленую Пушкіным перамогу над польскімі паўстанцамі Вяземскі гаварыў: «Курам на смех быць у крайняй узбуджанасці ад здзяйснення, бачачы, што льву ўдалося, нарэшце, накласці лапу на мыш».

Супастаўляючы розныя сведчанні сучаснікаў Пушкіна і яго ўласныя лісты, можна ўзнавіць гісторыю з'яўлення на свет гэтых апалагетычных твораў. Жаданне Бенкендорфа і цара «скіраваць пяро» Пушкіна ў патрэбным для іх напрамку добра адчуваў і сам паэт. 21 ліпеня 1831 года ён праз таго ж Бенкендорфа прапануе цару свае паслугі: «Калі гасудару імператару пажадана будзе скарыстаць пяро маё, то буду старацца з дакладнасцю і стараннасцю здзяйсняць волю Яго Вялікасці і гатоў служыць яму па меры маіх здольнасцей». Прапанову прынялі з задавальненнем.

І вось ужо, як засведчыў П.Барценеў, Пушкін «піша па жаданні гасудара» сваё пасланне «Клеветникам России». Сын цара, будучы імператар Аляксандр Другі, таксама пакінуў сведчанне: «Калі Пушкін напісаў гэту оду, ён перш за ўсё прачытаў яе нам». Абодва вершы, створаныя ў духу вялікадзяржаўнасці ды імперскага мыслення, апублікаваны ў жніўні 1831 года.

І тут жа як з рога дастатку пасыпаліся на аўтара шчодрыя «благодеяния Его Величества» (гэта словы самога Пушкіна).

14 лістапада гэтага ж года «государь император высочайше повелеть соизволил»: адстаўнога калежскага сакратара Аляксандра Пушкіна прыняць на службу тым жа чынам і прызначыць у дзяржаўную Калегію замежных спраў. Праз 20 дзён яшчэ адзін імператарскі Указ: «пожаловать» калежскага сакратара Пушкіна ў тытулярныя саветнікі. Адначасова Пушкін прызначаны прыдворным гістарыёграфам (для напісання гісторыі Пятра Вялікага). Дададзім: з найвялікшым па тагачасных мерках акладам (жалаваннем) у 5 000 рублёў у год, куды большым, чым атрымліваў на той жа пасадзе папярэднік Пушкіна - славуты гістарыёграф М.Карамзін. Для параўнання прыгадаем, што М.Гогаль у той самы час меў, выкладаючы ў вышэйшай навучальнай установе, «брыдкае жалаванне універсітэцкае 600 рублёў» гадавых.

Пісьмовыя кантакты з царом Пушкін ажыццяўляў праз Бенкендорфа. Захавалася аж 58 такіх лістоў. У адным з іх паэт паведамляе, што хоць ён за сваю службу і атрымлівае вялізную суму жалавання, але яму не хапае грошай для пражывання ў Пецярбурзе і што за чатыры гады пасля жаніцьбы мае шмат даўгоў. Хутка паэту з казны выдалі ў пазыку 30 тысяч рублёў.

Зрэдку паэт сустракаўся і з самім царом: то ў царскасельскім садзе, то ў іншых мясцінах. Аднойчы імператар з сям'ёй ехаў у экіпажы і, убачыўшы ішоўшага ля дарогі Пушкіна, гучна прывітаў яго па-французску. Паэт пачціва адказаў на прывітанне. Сустрэчы сталі больш частымі, пасля таго як найвысачэйшым Указам «всемилостивейше пожаловали» тытулярнага саветніка Аляксандра Пушкіна ў званне «камер-юнкера двара нашага». Праўда, паэт быў не зусім задаволены гэтым самым нізкім прыдворным званнем, якое, як ён запісаў у «Дзённіку», «даволі непрыстойнае майму ўзросту», аднак не адмовіўся ад камер-юнкерства і застаўся ў гэтым званні да апошніх дзён жыцця.

Калі паэт пасля дуэлі з Дантэсам памёр, імператар распарадзіўся: 1) заплаціць з казны ўсе даўгі нябожчыка (а гэта, як пасля падлічылі, аж 120 тысяч рублёў. - І.Л.); 2) заложаны маёнтак бацькі ачысціць ад даўгоў; 3) удаве пенсіён і дачцэ да замужжа; 4) сыноў у пажы і 1 500 рублёў на выхаванне кожнага да ўступлення на службу; 5) творы выдаць за казённы кошт на карысць удавы і дзяцей; 6) аднаразова 10 тысяч рублёў.

Між іншым, калі гаворка ідзе пра Льва Талстога ці, скажам, Тургенева, то звычайна не забываюць нагадаць, што яны мелі ўласныя маёнткі, а пра Талстога дадаюць, што гэта «помещик, юродствующий во Христе». Пра Пушкіна ж пішуць толькі, што ён з дваран. А між тым ён таксама меў маёнтак у сяльцы Кісцянёве Ніжагародскай губерні - 220 прыгонных сялян мужчынскага полу з жонкамі і дзецьмі. Праўда, ён, як толькі атрымаў гэту спадчыну ад бацькі, адразу заклаў у ламбард 200 душ за 38 000 рублёў. У лісце Пушкіна да К.Рылеева чытаем: «Ты злуешся, што я фанабэруся 600-гадовым дваранствам (маё дваранства яшчэ старэйшае)».

Аляксандр Пушкін

Вернемся цяпер да нацыянальна-вызваленчага польскага паўстання 1830-1831 гадоў і рэакцыі Пушкіна на гэтыя падзеі. «Паведамленне аб польскім паўстанні, - пісаў паэт 9 снежня 1830 года,- мяне зусім ашаламіла. Нашы спрадвечныя ворагі будуць канчаткова знішчаны... Любоў да айчыны ў душы паляка заўжды была пачуццём безнадзейна змрочным. Успомніце іх паэта Міцкевіча». І яшчэ ў адным лісце (21.01.1831 г.) прыгадваецца Міцкевіч: «Мы атрымаем Варшаўскую губерню, што трэба было ажыццявіць ужо 33 гады таму. З усіх палякаў мяне цікавіць адзін Міцкевіч. У пачатку паўстання ён быў у Рыме, баюся, ці не прыехаў ён у Варшаву, каб прысутнічаць пры апошніх сутаргах сваёй айчыны». Упэўненасць Пушкіна, што «Варшаву возьмуць без выстрала», не спраўдзілася. «Пясняр Імперыі» нервуецца, хоча сам адправіцца ў Польшчу. То Барценеву, то Нашчокіну на поўным сур'ёзе гаворыць, што «кіне ўсё і паедзе біцца з палякамі». Чамусьці, аднак, не паехаў.

І далей з пільнай, неаслабнай увагай сачыў Пушкін, як царызм душыў паўстанцаў, і, як існы вялікадзяржаўнік, блізка да сэрца прымаў няўдачы рускага войска. 1 чэрвеня 1831 года ў лісце да П.Вяземскага Пушкін паведамляе яму некаторыя падрабязнасці пра бітву пад Астраленкай (14 траўня), пра тое, як пагеройску паводзіў сябе польскі галоўнакамандуючы Я.Скржынецкі: «Ён, ранены ў плячо, выпусціў з рук палаш і сам зваліўся з каня, уся ягоная світа кінулася да яго і зноў пасадзіла на каня. Тады ён заспяваў «Ешчэ Польска не згінэла», і світа яго пачала паўтараць.» І далей: «Усё гэта добра ў паэтычных адносінах. Але ўсё-такі іх трэба задушыць, і наша марудлівасць выклікае пакуту».

Затое, як акрыяў паэт, калі даведаўся, што «Польши участь решена»: «Победа! Сердцу сладкий час! Россия! Встань и возвышайся! Греми, восторгов общий глас!..» На ўрачыстасць нават выклікаецца цень продкаў: «Восстав из гроба своего, Суворов видит плен Варшавы; вострепетала тень его от блеска им начатой славы!» Гэта той самы Сувораў, які ў 1794 годзе заліў беларускую і польскую землі крывёю, задушыў паўстанне Касцюшкі, а крыху раней - паўстанне Пугачова.

Прыкра і крыўдна было Міцкевічу, што той, каго ён называў «песняром вольнасці», цяпер служыць царызму і славіць яго захопніцкую палітыку. У выгнанні, далёка ад заняволенай радзімы піша Міцкевіч верш «Рускім сябрам». Першым прыгадвае Рылеева. Яго ўжо няма. «Павесіў цар яго. Бяда народам тым, што губяць гэтак во сыноў сваіх вялікіх». Другі - Бястужаў, прарок-ваяр. Яго руку «да тачкі цар дзесь з польскай прыкаваў, іх паяднаўшы кроўна». Гэтыя двое, ахвяры дэспата-цара, называюцца ў вершы паіменна.

Трэці - безыменны, але лёгка ўгадваецца. Ён пакараны «больш страшнай - Божай карай», «ён зганьбіў імя, прадаўшыся цару за шчодрыя дары, б'ючы чалом перад дзвярамі залатымі. І славячы яго падкупленым пяром, раскошы рад, з мяне, з пакут выгнанцаў-брацціяў смяецца ў маім доме, а перад царом, нібы заслугу, выстаўляе груз пракляццяў».

Пушкін, прачытаўшы гэты верш, змешчаны ў зборніку, выдадзеным у Парыжы, пачаў быў пісаць адказ Міцкевічу. Менавіта як адказ паэта на верш «Рускім сябрам» каменціруецца гэты твор у польскай крытыцы і ў адпаведных тамах шматлікіх выданняў твораў Пушкіна. Верш пачынаецца радком «Он между нами жил...», але так і застаўся не дапісаным да канца, пры жыцці Пушкіна не друкаваўся, пабачыў свет толькі ў пасмяротным выданні 1841 года. Ёсць у вершы радкі, у якіх выразна бачыцца тактыка, уласцівая і многім сённяшнім палітыкам: скажаш ім горкую праўду ў вочы - адразу ўключаць цябе ў стан падкупленых ворагаў: «Наш мирный гость нам стал врагом - и ядом стихи свои, в угоду черни буйной, он напояет. Издали до нас доходит голос злобного поэта...»

Міцкевіч нібы прадчуваў такі рэзананс. Яго верш «Рускім сябрам» завяршае страфа: «Калі ж хто з вас мяне пачне дзе праклінаць, я адкажу: так брэша пёс дваровы, які таму, хто захацеў ашыйнік звыклы зняць з ягонай шыі, рукі пакусаць гатовы».

Яшчэ адзін штрых да неардынарнай постаці Адама Міцкевіча.

Паручнік Дантэс, які прыехаў з Францыі ў Расію «на лоўлю шчасця і чыноў», за выклік на дуэль і забойства Пушкіна быў разжалаваны ў радавыя, пазбаўлены расійскага грамадзянства і высланы за мяжу. Калі Міцкевіч дачуўся пра смерць Пушкіна, то апублікаваў у замежным друку ліст, у якім пісаў, што лічыць сваім абавязкам адпомсціць за смерць свайго сябра Пушкіна і выклікае Дантэса на дуэль. Але чамусьці яна не адбылася.

На заканчэнне патлумачым яшчэ, чаму Г.П.Фядотаў называе Пушкіна «апошнім песняром Імперыі». Гэты выдатны рускі гісторык і філосаф (большую частку свайго дарослага жыцця прабыў у эміграцыі) пісаў: «Пасля Пушкіна, пасварыўшыся з царамі, руская інтэлігенцыя страціла смак да імперскіх праблем, да нацыянальных і міжнародных наогул... Яна абуралася гвалтоўнай русіфікацыяй або хрышчэннем іншародцаў, але абурэнне адносілася да метадаў, а не да мэты. Асіміляцыя прымалася як непазбежны вынік цывілізацыі».

Можна, аднак, прыгадаць асобныя, хоць і рэдкія выключэнні. Так, І.С.Аксакаў на старонках часопіса «Дни» горача падтрымліваў дзейнасць Мураўёва-Вешальніка ў «Северо-Западном Крае». Быў аднойчы зрыў і ў М.А.Някрасава. Ратуючы ад закрыцця свой часопіс «Современник», ён 16 красавіка 1866 года, прыняўшы ўдзел у афіцыйным ушанаванні Мураўёва-Вешальніка, прачытаў у яго гонар хвалебны верш, які пачынаецца радкамі: «Бокал заздравный поднимая, ещё раз выпить нам пора здоровья миротворца Края. Так много ж лет ему! Ура!» Пасля, аднак, Някрасаў да канца жыцця балюча перажываў свой дагаджальніцкі грэх. Ён пісаў: «Не торговал я лирой, но бывало, когда грозил неумолимый рок, у лиры звук неверный исторгала моя рука...» Паэт не адзін раз раскайваўся ў сваім няправільным кроку. У Пушкіна ж раскаяння не было. І не магло быць.

**Іван Лепешаў,**
**прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы,**
**доктар філалагічных навук**

